# НАВІНКІ

6 - 13 лютага 2003 №5(84) Кошт свабодны





## СЬЦЯНА МУЛЯВІНА

MULYAVIN NOT DEAD

WHO KILLED MULYAVIN?

NASHA NIVA

Колькасьць «сяброў» і «аматараў творчасьці» Ўладзіміра Мулявіна за апошні тыдзень настолькі ўзрасла, што неўзабаве новы рух песьняроўцаў пераплюне культы цоеманаў і нірваністаў...

## Ва Ўкраіне раскрылі масонскую змову.

Стар.3

## Ці належым мы да Новай Эўропы?

Тэст на стар.4

## У ЧАКАНЬНІ ДРУГОГА БАШМАКУ

Надыйшоў час баяцца, дрыжаць і хавацца. Нябачная пагроза навісла над усімі намі. Спачатку быў «Мір». Былая касьмічная станцыя СССР лятала па плянэтнай арбіце, а яе дэталі па частках падалі на насельніцтва экватарыяльных дзяржаваў. Гэта была толькі прэлюдыя. Піск армагедону пачуўся 11 верасьня, калі на галавы жыхароў Нью-Ёрку рухнулі вежы Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру. З таго самага дня ўсё цывілізаванае чалавецтва на чале з Джорджам Бушам жыве ў стане пэрманэнтнага страху: сібірская язва, выбухі ў дыскатэках, снайпер, захоп тэрарыстамі м'юзік-холу працягваюць тэндэнцыю. А на мінулым тыдні тэхаскія каўбоі, якія вывелі кароваў у прэрыю, не пасьпявалі ўвёртвацца ад падаючых зь неба крывавых абрубкаў рук і ног астранаўтаў касьмічнага карабля «Калумбія». Комплекс пэрманэнтнай асабстай небясьпекі становіцца масавым нэўрозам чалавецтва XXI стагодзьдзя. Беларусы, якіх зацягвае ў сьпіраль глябалізацыі, паступова таксама пачынаюць баяцца: кожны пад'езд абзавёўся кодавым замком, кожны іншаземец успрымаецца як патэнцыйны тэрарыст. Як толькі праверка паштовай скрыні стане актам грамадзянскай мужнасьці, можна лічыць, што мы поўнасьцю інтэграваліся ў сусьветнае грамадзтва. Арт Шпігельман, аўтар сусьветнавядомага коміксу Maus пра генацыд габрэяў у Трэцім рэйху, прыдумаў гэтай псыхалягічнай траўме назву «нэўроз падаючага башмака». Бо ўсе мы, атрымаўшы ў загрывак першым башмаком, пачынаем жыць у пастаянным чаканьні, калі на нас зваліцца другі сандаль...

Кавэр-комікс на стар.16

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 6.02.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 117

# *Навінкі ў тЭстах*

**1. Якую краіну ЗША не ўключылі ў плян вайсковай дапамогі краінам?**
А) Ірак
Б) Паўночную Карэю
В) Беларусь

**2. Ставарышаньне якой моладзі заснаванае днямі ў Магілёве?**
А) Вялікалітоўскай
Б) Вялікалатвійскай
В) Вялікалітоўскай

**3. Падпісанае міждзяржаўнае пагадненьне аб пастаўцы ў суседнюю Польшчу:**
А) Нафты
Б) Газу
В) Электраэнэргіі

**4. На якога былога прэм'ер-міністра падаў у суд Белаграпрамбанк?**
А) М.Чыгіра
Б) У.Ярмошына
В) С.Лінга

**5. Прэзыдэнтам якой асацыяцыі выбраны беларускі прадпрымальнік Алег Казлоўскі?**
А) Славянскай
Б) Арыйскай
В) Цыганскай

**6. Чыя амбасада пачала сваю працу ў Менску?**
А) Ізраільская
Б) Палестынская
В) Палестына-ізраільская

**7. Колькі складае бюджэт пражыцьцёвага мінімуму, які быў прыняты Саветам міністраў Беларусі?**
А) 100 баксаў
Б) 89 557 рублёў
В) Чарка і шкварка

**8. Якая калекцыя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі занесеная ў рэестар аб'ектаў, прызнаных нацыянальным набыткам краіны?**
А) Мікраарганізмаў
Б) Мікраэлементаў
В) Мікрааўтобусаў

**9. Інстытут вывучэньня рэформаў і праблемаў прадпрымальніцтва выдаў кнігу «Саюзная дзяржава:**
А) Шаг у будучыню»
Б) Шаг у бездань»
В) Шагам марш»

**10. На рэканструкцыю якога саду будзе выдаткавана каля 6 мільярдаў рублёў?**
А) Сэміраміды
Б) Батанічнага
В) Маркізу

**11. Ансамбаль ПЕСЬНЯРЫ выступіў з прапановай прысвоіць яму імя:**
А) Уладзіміра Мулявіна
Б) Курта Кабэйна
В) Віктара Цоя

**12. Паводле дадзеных кыргыскага цэнтарвыбаркаму, на прайшоўшым рэфэрэндуме атрымаў перамогу:**
А) Нурсултан Назарбаеў
Б) Аскар Акаеў
В) Сапурмурат Ніязаў

**13. Які дом з назвай «Смаленск» вырашана пабудаваць на сустрэчы кіраўнікоў Менгарвыканкаму з дэлегацыяй Смаленскай вобласьці?**
А) Гандлёвы
Б) Публічны
В) Казёны

**14. Якая зьява ў сучаснай Расеі прызнаная самай камічнай, згодна сацыялягічнага апытаньня?**
А) Інфляцыя
Б) Карупцыя
В) Барыс Ельцын

**Правільныя адказы**: 1-В, 2-А, 3-В, 4-А, 5-В, 6-Б, 7-Б, 8-А, 9-А, 10-Б, 11-А, 12-Б, 13-А, 14-В.

# У Лябедзькі новая тачка?..

## *Рэдакцыя выйшла на сьлед нэалібэральнага пратэктара*



**Апошнім часам сярод палітычна сьвядомай часткі беларускага грамадзтва распаўсюдзіліся чуткі пра тое, што заўсёднік скандальнай кронікі газэты *Навінкі*, а па сумяшчальніцтву старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька набыў новую машыну.**

Называлася нават дакладная сума зьдзелкі – 9 тысячаў умоўных адзінак. Адразу ж аматары пачасаць языком падзяліліся на два антаганістычных лягеры, адзін зь якіх падтрымлівае сьвятое пачынаньне апазыцыйнага палітыка. Маўляў, не салідна лідэру партыі пешкі хадзіць. Так зь ім нават апошні сябра СПС размаўляць ня стане. Другая частка, наадварот, задаецца пытаньнем, адкуль у бабкі дыямэнты. Ня гожа барацьбіту за сацыяльную несправядлівасьць казырыцца новай тачкай, калі народ галадае. Вунь Лявон Баршчэўскі ў бытнасьць главаром БНФ з-за адсутнасьці сродку перасоўваньня нават на мітынгі спазьняўся. А тут – такі шык!

Мы вырашылі праясьніць сытуацыю зь першакрыніцаў і папрасілі пракамэнтаваць навіну самаго спадара Лябедзьку. Скажам адразу, чуткі аказаліся перабольшанымі. У тэлефоннай размове аб'яднаны грамадзянін шчыра прызнаўся, што машыну ён не набыў, а толькі зьбіраецца гэта зрабіць. Па словах галоўнага аб'яднанага грамадзяніна, ён паклаў вока на «Renault» 1998 году выпуску. А каштуе гэта ня 9 тысячаў, а ўсяго-такі нейкіх 10 мільёнаў айчынных рублёў ( што адпавядае нейкім 5 з паловай штукам баксаў). І перад падатковымі органамі ён абсалютна чысты. Грошы ён возьме не ў ідэалягічнага карыфана Нямцова, як заяўляюць зайздросьнікі-апанэнты. Ён проста прадасьць дзьве свае старэнькія іншамаркі ●



Лідэр лібэралаў пацьвердзіў, што сапраўды зьбіраецца абзавесьціся новенькай бліскучай тачкай.

**Паўка Карчагін,**
камутатар

## Што французу – ежа, беларусу – атрута



Адной з галоўных задачаў, вызначаных прэзыдэнтам краіны, зьяўляецца павелічэньне экспарту. За апошнія дзесяцігодзьдзі склалася ўражаньне, што мы акрамя славутых трактароў, МАЗаў ды БелАЗаў нічога і прапанаваць ня можам. Аказваецца, можам. Ёсьць і ў нас прыродныя рэсурсы, дастатковыя, каб забясьпечыць бязьбеднае існаваньне будучым пакаленьням. Днямі інфармацыйнае агенцтва Інтэрфакс паведаміла сэнсацыйную навіну: ёсьць яшчэ адзін раней афіцыйна не ўзгадваны артыкул экспарту – сьлімакі. Штогод каля ста тонаў вінаградных сьлімакоў Беларусь экспартуе ва Францыю. Багаты наш край на клітарападобных панцырных малюскаў. Браканьерства і глумленьне над роднай прыродай праводзіцца ў 28 раёнах Беларусі. Збор робіцца ўручную і зьбіраюць толькі тых экзэмпляраў, чый панцыр-домік дасягае памераў трох сантымэтраў.

А калі экспартаваць, дык экспартаваць па-буйному. Трэба спаўна выкарыстоўваць багацьці радзімы, а таксама харчовую залежнасьць замежных гурманаў ад усялякіх земнаводных, членістаногіх і іншых паўзучых гадаў. Ласых на нашую фаўну французаў трэба падсадзіць на нашых жаб, ракаў, ды вужакаў. Эх, каб не калектывізацыя, якая павысушвала палескія балоты, гора б зараз ня ведалі беларусы! ●

**Андрэй Макарэвіч,**
кухар

# Пазытыўныя зьмены

## Працэс ачысткі піва ад асадку пачаўся

**Вялікія прамены чакаюць беларускае піваварэньне. Загад прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі ачысьціць прамысловасьць ад негатыўных зьяваў, які нядаўна прамільгнуў у прэсе, абяцае аматарам піва мноства сюрпрызаў.**



Што гэта за негатыўныя зьявы, пра якія абмовіўся глава дзяржавы?

Перш за ўсё – імпарт. Калі папулярная ў народзе барматуха вырабляецца на айчынных прадпрыемствах і прыносіць дзяржаве рэальны даход у выглядзе здымаемых падаткаў, то зь півам справа абстаіць далёка ня так бліскуча. Імпартнае піва душыць беларускае піва ў сумленнай канкурэнтнай барацьбе. Толькі «Аліварыя» і «Лідзкае» могуць стварыць канкурэнцыю расейскім «казкам для дарослых». Півавары на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі паскардзіліся на адсутнасьць падтрымкі з боку дзяржавы, бо ўсе інвэстыцыі, якія ўкладваліся за апошнія некалькі год у беларускае піва былі з боку расейскіх інвэстараў. Ад ураду півавары бачылі толькі павышэньне фіскальных тарыфаў, якія зьвялі да мінімума розьніцу ў цане з расійскім півам.

Піваварэньне, тым ня менш, можа прыносіць рэальны даход, калі, як лічаць самі півавары, даць ім больш свабоды. Пакуль, наколькі гэта дазваляюць прамысловыя магутнасьці, экспэрымэнтамі займаецца завод «Аліварыя», пад маркай якога было выпушчана некалькі новых гатункаў ад «Алівары безалькагольнай», якую зрэшты спажыўцы не зусім зразумелі, да «Алівары моцнай», якая якраз знайшла свой шлях да сэрцаў аматараў ячменнага напою. Зараз «Аліварыя» прыступіла да выпуску піўных кактэйляў – бірміксаў, дзе сьветлае піва мяшаецца зь ліманадам і мае ня больш 2,5 % алькаголю. Арыгінальная прадукцыя можа нават камусьці і спадабацца, як замяняльнік квасу ў сьпякотную пару, але кошт бірміксаў будзе большы, чым у звычайнага піва.

Краіна, дзе спажываньне алькаголю стала натуральнай і неабходнай формай рэакцыі на рынкавыя рэформы, дзе ў народзе распаўсюджана правіла этыкету: гарэлка бязь піва – «змарнаваныя грошы», наўрад ці здаволіцца гэткімі ліманадамі. Магчымы шлях да яшчэ большага ўзмацненьня прадукту і стварэньня сынтэзу піва з пладовымі напоямі. Унікальны вопыт польскага канцэрну «Warka», дзе быў выпушчаны забойчы напой «Warka strong vine» – газаваная барматуха, закаркаваная ў піўную бутэльку, якая па атрутнасьці нагадвала мікс дэнатурата з дэзадарантам.

Дзяржава пакуль займаецца распрацоўваньнем праекту «Аб узмацненьні дзяржаўнага кантролю за абаротам імпарту піва». Як заўсёды любое пачынаньне і рэформы – гэта неабходная прэлюдыя для павышэньня тарыфаў, а ў сваю чаргу цэнаў на напоі, што ўдарыць па кішэнях перш за ўсё спажыўцоў ●

**Граф Чапскі**

## *ХарчЫ*

## Ня хлебам адзіным...



Аматарам камунальных паслуг будзе ў гэтым годзе цяжка – тарыфы на ацяпленьне і гарачую ваду вырасьлі на 25%, электраэнэргію – на 36,9%. Больш за ўсё ўражвае 50-працэнтны рост тарыфаў за халодную ваду.

Ці тое яшчэ будзе? Павышэньне цэнаў на хлеб і хлебабулачныя вырабы значна панізіць здольнасьць выжываньня малазабясьпечаных слаёў насельніцтва Беларусі. На паседжаньні Савета міністраў Беларусі быў адобраны праект аб выключэньні хлебу зь ліку сацыяльна значымых тавараў, цэны на якія рэгулююцца дзяржавай. Гэта значыць, што цэны на хлеб будуць свабоднымі і паляцяць, як вольныя птахі. Неўзабаве і пляшка барматухі будзе таньней за батон. Але ня ўсё так дрэнна, як здаецца на першы погляд. У катэгорыі сацыяльна значымых тавараў засталіся яшчэ мука для выпечкі, мясныя і дзіцячае харчаваньне, цукар і яго замяняльнікі для хворых дыябэтам, бульба, а таксама рытуальныя паслугі. Так што бяз хлеба і вады пратрымацца можна. Хутка лета. А колькі той зімы! Але повад для аптымізму ў іншым. Прэзыдэнт даў заданьне навукоўцам як мага хутчэй адшукаць ці распрацаваць альтэрнатыўныя крыніцы энэргіі. Нашыя добрасумленныя вучоныя ў самыя кароткія тэрміны распрацуюць новыя спосабы жыць на халяву і не плаціць за рэсурсы. Тады ў нас зноў настане рай, і ўсе буржуі будуць зайздросьціць. А пакуль, эканомьце хлеб і ваду. Не закусвайце хлебам, а акуратна занюхайце лустачкай і перадайце сабутыльніку. Не запівайце, гэтыя панскія звычкі пакіньце на лета. А на закусь можна набыць і кансэрву «Чабурашка».

# Ёсьць чым ганарыцца

*Беларуская электроніка выходзіць на сусьветны ўзровень*

## *Ноў-хаў*

### Сымбаль Радзімы

Калі ў краіны супэрздароўе,
Моц і сіла волата,
Трактабудоўе расьце ўгару
З дапамогай сярпа і молата.

Дзе б ты ні быў:
Віетнам, Аргентына, Ангола.
Беларускі трактар працай сваёй
Поіць і корміць сьвету палову.

Нам не патрэбная зброя,
Не патрэбна ніякіх нам бомб.
Мы разьвіваем тэхнічны прагрэс,
Бартавы на трактар паставілі комп.

Цяпер, калі машыне патрэбны рамонт,
Табе, трактарыст, добры кандышн.
Кампутар усё вырашыць сам,
Як на нябёсах усявышні.

Прэч, лянота, хутчэй бягі,
Любы селянін працаваць!
Патрэбна будзе – будзем вучыць
Над полем наш трактар лятаць!

Ярыла Пшанічны




*Новы беларускі трактар, аснашчаны бартавым кампутарам, патрабуе спэцыяльнай падрыхтоўкі мэханізатараў*

Кампутарная галіна – адная з самых пэрспэктыўных у беларускай эканоміцы. Яшчэ нядаўна мы паведамлялі вам пра стварэньне навукоўцамі з Нацыянальнай акадэміі навук супэрсучаснага кампутара, які здольны рабіць мільярды апэрацыяў у сэкунду. І вось новае дасягненьне. На катэдры «Трактары» Беларускага нацыя-нальнага тэхнічнага ўнівэрсытэту распрацаваны новы бартавы кампутар для аўтатэхнікі. Спэцыялісты ўпэўніваюць, што навінка знойдзе сваё месца ў народнай гаспадарцы краіны. Напрыклад, своечасова падасьць знак пра любую непаладку ў абсталяваньні транспартнай тэхнікі, будзе сачыць за станам мікраклімату ў салёне. Відавочна, што новаўвядзеньне значна аблегчыць бітву за ўраджай і станоўча адаб'ецца на паказчыках ураджайнасьці.

Сфэра прымяненьня бартавога кампутара даволі шырокая – ад сельскай гаспадаркі да гарадзкога пасажырскага транспарту. Аўтары праекту спадзяюцца на выгодны кантракт з «Белкамунмашам» на пастаўку партыі вылічальнай тэхнікі для менскіх аўтобусаў і тралейбусаў. І магчыма ў хуткім часе мы на ўласнай скуры адчуем вынікі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ●

# *Новыя якуцкія горы ў беларускіх балотах*

**Беларуская фэдэрацыя гарналыжнага спорту і сноўборду, старшынёю якой зьяўляецца Ігар Юдзін, атрымала дазвол на будаўніцтва першага гарналыжнага вучэбнага цэнтру ў рэспубліцы, які адпавядаў бы эўрапейскім стандаратам.**




Багатыя, калі ня плачуць, любяць адпачываць на гарналыжных курортах. У Альпах пераважна. Бо Альпы – горы высокія, і да ўсяго там існуе разьвітая інфраструктура, якая дазваляе прыязджаць туды турыстам са ўсяго сьвету. Але там дорага. Каўказ можа бліжэй і таньней, але там шмат асобаў каўкаскай нацыянальнасьці, ды і ўвогуле абстаноўка неспрыяльная. Для нашых аматараў горналыжнага спорту Беларуская фэдэрацыя горналыжнага спорту і сноўборду знайшла выйсьце. Нарэшце і ў нас будзе свой Манблан! На ўрадавым узроўні прынятае рашэньне пабудаваць у Беларусі гарналыжную трасу зь вялікім аўрагам і штучнай горкай, якая не саступала б па ўзроўні эўрапейскім. Можа, гэта яшчэ не Эльбрус, але цэны будуць цалкам адпавядаць яго вышыні. Цікава, якому айчыннаму аматару пакатацца зь вецярком па кішэні будзе атаварыцца ў пункце пракату горных і водных ровараў, ролікавых лыжаў і дошак, альбо пасяліцца ў сучасным гатэльным комплексе. Плянуецца таксама і арганізацыя фаст-фуду. Што і казаць, да справы падыйшлі сур'ёзна. Пра маштабы будаўніцтва сьведчыць хаця б праект па ўсталяваньні трох пад'ёмнікаў, на якіх лыжнікі будуць падымацца на гару. Так што не за гарамі алімпійскія перамогі і самыя высокія месцы беларускіх спартсмэнаў. Засталося самае галоўнае – знайсьці ў нашай высокагорнай краіне прыдатную для слаламу гару ●

# Масоны ў шараварах




Кучма робіць характэрны масонскі жэст – «магістарскае чуханьне». Ґэта значыць, што ён хоча схаваць свае цёмныя пляны.



«Усябачнае вока» – вядомы масонскі сымбаль.

Лукашэнка паказвае Кучму ў адказ, што ён прасёк фішку.

Пакуль беларуская апазыцыя займаецца незразумела чым, іхныя ўкраінскія калегі раскрылі нядаўна масонскую змову. Паводле салідарнай заявы СПУ, кампартыі Ўкраіны й блёку Юліі Цімашэнкі, якая нядаўна была агучаная ў прэсе, вышэйшыя кіраўнікі дзяржавы ўваходзяць у масонскую ложу. Сярод новаяўленых «вольных муляпроў» называюцца імёны, прэм'ер-міністра, міністра абароны, вышэшых кіраўнікоў Службы бясьпекі, ворах дэпутатаў Вярхоўнай Рады, а таксама жонка прэзыдэнта Ўкраіны Леаніда Кучмы. Пэрсона самога гаранта ўкраінскай канстытуцыі прама не называлася, хаця ня выключана, што й масонскі супруг таксама сябра Ордэну сьвятога Станіслава. Калі гэта праўда, то можа насьцярожыць нядаўняе выбраньне Кучмы на пасаду старшыні Савету СНД на нядаўнім саміце кіраўнікоў краінаў-удзельніц у Кіеве. Нагадаем, што толькі беларускі лідэр у гордай адзіноце выказаўся супраць кандыдатуры Кучмы. Можа, Лукашэнка, які даўно зьяўляецца сьпяцом па выяўленьні масонскай заразы, сусьветным логавам якой зьяўляецца вашынгтонскі Капітолій, западозрыў няладнае ў павадках і паводзінах паўднёвага суседа? ●

## ФОтатЫдзень

### Калі б фотка магла гаварыць...




Спэцслужбамі Беларусі ў 2002 годзе праведзена 5698 рэйдаў па спыненьні нелегальнай міграцыі. У адносінах да 2240 чалавек былі вынесеныя пастановы аб дэпартацыі за межы краіны.




У вёсцы Гусевіца, што на Гомельшчыне, адбылася ўспышка дызэнтэрыі. Ахвярамі сталі 80 чалавек. На дадзены момант праводзіцца праверка школ, дзіцячых садкоў і крамаў з мэтай выяўленьня бацылаў.




Небывалыя ападкі прыйшлі на гэтым тыдні ў Беларусь. Камунальныя службы Менску вымушаныя былі прыняць экстраныя меры для ліквідацыі сьнежных завалаў на вуліцах гораду.




Жудасная трагедыя адбылася ў Асіповіцкім раёне. Ва ўмовах дрэннай бачнасьці пасажырскі цягнік наехаў на статак калгаснага маладняку. Па папярэдніх зьвестках загінулі 35 цялятаў.




Міліцыя атрымала паведамленьне, што ў штаб-кватэры БНФ закладзеная бомба. Сапёры нічога не знайшлі. В.Вячорка зьвязвае гэта з пачаткам выбарчай кампаніі ў мясцовыя саветы.

# Ці належыш ты да Новай Эўропы?

## *Новая геапалітыка Белага Дому дае шанец*

Мы – эўрапейцы, – любяць казаць беларусы ў коле прадстаўнікоў народаў былога СССР. Пад гэтым відавочна разумеецца агульнасьць лёсу з цывілізаваным сьветам: ангельцамі, французамі і жыхарамі Фарэрскіх астравоў. Але, як сёньня высьветлілася, мы йшлі няправільным шляхам, ня з тымі трэба было шукаць сябе асацыяцыяў і к шчасьцю дарог.

Яшчэ 22 студзеня высокапастаўлены чыноўнік амэрыканскай адміністрацыі Рамсфэльд зрабіў гістарычнае адкрыцьцё. Крыткуючы пазыцыю Францыі і Нямеччыны, што ня маюць вялікага жаданьня ваяваць у Іраку, ён сказаў: **«На самой справе існуе дзьве Эўропы. Акрамя старой дэгенэратыўнай і пацыфісцкай Заходняй Эўропы, ёсьць новая Эўропа – маладыя, поўныя дэмакратычнай энэргіі краіны былога савецкага блёку»**. Маўляў, новыя эўрапейцы, што там жывуць, пачуўшы енкі ахвяраў іракскага дыктатара, ня крэмзаюць паперкі-рэзалюцыі ў Раду бясьпекі ААН (гэтак любяць рабіць толькі ў Парыжы і Бэрліне). Новыя эўрапейцы як адзін гатовы пакласьці галаву ў пясках Мэсапатаміі ў імя ідэалаў гуманізму.

Заява Рамсфэльда перавярнула слабенькі розум айчынных эўрафілаў. Зь першай клясы яны штудзіравалі Джойса і Гесэ, да блявоты глядзелі паранармальныя стужкі Гадара і Фасбіндэра, томна шукалі эстэтычнай сатысфакцыі ў палотнах Пікаса і Кадзінскага... Усё гэтае садамаза, «духоўнае абразаньне» было патрэбнае для таго, каб лічыць сябе прыблатнёным да каштоўнасьцяў Эўрапейскай цывілізацыі. Цяпер, як кажуць у маскоўскай Азіі, можаце засунуць увесь гэты інтэлектуальны набор сабе ў ..опу. Гэта вам не Эўропа!

А што ў такім разе Эўропа? Што агульнага для чэхаў, славакаў, вугорцаў, палякаў ды іншых румынаў? На гэтае пытаньне існуе шмат літаратуры. Быць усходнеэўрапейцам паводле адных – гэта падтрымліваць спірытуальны кантакт з продкамі, якія касьцямі сталі на шляху савецкіх ордаў, паводле іншых – экстрасэнсорнае чуцьцё адчуваньня «іншай культурнай прысутнасьці», якую трэба холіць і лілеяць.

Пагадзіцеся, гэта ўсё – ананізм інтэлектуалаў. Калі мы кажам пра масавую культуру Новай Эўропы, пра тое што зьяўляецца шкілетам ідэнтычнасьці новаэўрапейцаў у будзённай сытуацыі, на думку прыходзіць толькі адно: культурная прадукцыя гэтых краінаў часоў рэжымаў «народнай дэмакратыі». Так, толькі пад час савецкага пратэктарату ў рамках г.зв. сыстэмы краінаў СЭВу былі створаныя культурныя артэфакты, вядомыя і ўва ўсіх кутках Новай Эўропы: прысьпеўкі Карэла Гота, кліч «Ё-ё-ой-гу-гу-гу» Гойкі Міціча ў ролі Чынгачгука-Вялікага Зьмея, аўтобусы Ікарус, сабака Рэкс, вугорская эротыка... Вось яны, культурныя сымбалі новай эўрапейскай цывілізацыі! Вось, што, а ня штудыі Жан-Поля Сартра і навэлы Германа Бёля, павінна стаць штодзённай культурнай ежай сапраўднага беларускага эўрафіла. Ня будзем адкладваць справу ў доўгую шуфляду і адразу рушым у лона Новай Эўропы. Прапануем вам прайсьці тэст і даведацца ступень вашай новаэўрапейскасьці. Надыйшоў сакральны час вызначыцца, хто вы – мудак-стараэўрапеец, што страціў дэмакратычную патэнцыю, або волат прагрэсу – прадстаўнік Новай Эўропы!

Праверце сябе, наколькі добра вы ведаеце культурныя каштоўнасьці Новай Эўропы, і ўсё стане на свае месцы ●

Пачнем з лакмусавай паперкі. Які аўтобус самы круты ў сьвеце?

Да-а, «Ікарус» ён і ў Афрыцы «мэрсэдэс». Вось памятаю, палякі прыяжджалі, крутыя жуйкі прадавалі. Памятаеш, якія былі ў самы смак?

Ну, з гэтай гумы нават пузыроў нармальных не надзьмуць. Мярзота. Дарэчы, які мульцяшны герой па старой памяці табе падаецца больш брыдкім і мярзотным?

Падазрона. Заходняя гнілота цябе пільнуе з маленства. Але ня ўсё згублена. Адкажы-ка, якая зь нямецкіх тачак лічыцца найбольш небясьпечнай: «трабант» або «мэрс»?

Сапраўды, гэта проста труна, асабліва калі пад мухай. Дарэчы, а што б ты бухнуў з большым задавальненьнем?

«Марціні» «дональдам» закусваць ды яшчэ прыдурка Піфа зырыць... Трэба асьвяжыць такі перагар! Лепш парфумай.

Гоніш! «Трабант» –самая класная ГДР-аўская тачка! Ты ведаеш, дакуль на ёй можна даехаць, не? Ну выбірай.

Пад «Бехеровачку» ды да Варшавы – супэр! Толькі навошта малой «Шанэль№5», калі ёсьць нармальная «Красная Москва»? А ёй яшчэ трэба выбраць бялізну.

Вы зрабілі правільны выбар – ліфчык румынскай фабрыкі «Бюстгальтэр Чаўшэску». А яшчэ з латвійскімі водарамі ад «Дзінтарса» – хоць у кіно з кавалерам ідзі. Якія мульцікі любіш?

Ну ты даў маху – трапіў у самы цэнтар гнілі. Але ў Парыжы нябдага б і закупіцца рознай тэхікай. Якой фірме аддаеш перавагу: СЭВаўскай ці варожага блёку?

Насамрэч, пофігу, якой фірмы ты што набыў, галоўнае мульцік пра крата добры быў, па «Спакойнай ночы» круцілі. Праўда, бялізну нейкую дэкадэнцкую прыдбаў. Чым у загранцы расплочваўся, тугрыкамі?

Віншуем, вы сапраўдны новаэўрапеец, жаваранак прагрэсу і тамбурын свабоды. Вашая дэмакратычная натура заклікае вас у паход у імя вялікіх ідэалаў. Скіньце зь сябе карсэт стараэўрапейскай сапліваcьці і пад маршы Карла Гота нясіце факел свабоды на бліжэйшы Блізкі Ўсход.

Закавыкі нашага тэсту прабуравіла вашыя мозгі наскрозь. Вы не ноавэўрапеец. Вы – махровы дэкадэнт, ачумеўшы ад блявотна-пацыфісцкай культуры Старой Эўропы. Такім як вы Шпэнглер яшчэ ў 20-ыя гады раіў саступіць трасу эвалюцыі новым прагрэсіўным геапалітычным фармацыям.

# ЭТНАГРАФІ

## (ПЛЕМЯННЫЯ

Падобна на тое, што Пэнтагон мае сур'ёзныя намеры асядлаць сучасную вавілонскую блудніцу, што завецца Іракам. Напружаная атмасфэра чаканьня немінучай бітвы нагадвае калектыўнае рыхтаваньне да Армагедону. Сілы Зла сплаціліся ў выглядзе г.зв. «антываеннага руху». 15 лютага, ў розных кутках сьвету ісчадзьдзі пекла правядуць свае вулічныя шабашы, дзе будуць спакушаць воінства Джорджа Буша-малодшага на капітуляцыю.

Сілы Дабра сканцэнтраваліся вакол Мэсапатаміі. З божай дапамогай хутка мы ўбачым сцэну публічнага пакараньня міжнароднага супастата і разбойніка Садзіка Хусэйна. Мяркуецца, што атаман Восі Зла будзе ўрачыста раззброены некалькімі кропкавымі ўдарамі і пасаджаны на кол Дабра. Вытворцу нязнойдзенай пірацкай зброі масавага зьнішчэньня закуюць у кандалы, апрануць у каляровую турэмную сарочку і будуць доўга паказваць па ўсіх тэлеканалах плянэты. Як некалі Радуеў, Хусэйн адкрыецца сусьветнай супольнасьці такім, якім павінен быць кожны павержаны вораг «цывілізавнага» чалавецтва: рахітычным аблезлым пігмеем 1м 30см росту са спужаным позіркам гарэзы, якога толькі што злавілі строгія, але справядлівыя дзядзі і цёці.

Дзякуючы падвіжніцтву амэрыканскага спэцназу і авіяцыі, дэспатыя падзе разам з цэнамі на нафту. Застанецца толькі адна праблема: паставіць на месца узурпатара богаўгодны рэжым, здольны трымаць у сваіх руках шлянг энэргетычнай бясьпекі цывілізаванага сьвету. Таму ўжо сёньня праводзіцца сэлекцыя кандыдатаў на кіраваньне вызваленай краінай. За амэрыканскія гранты (92 мільёны даляраў) аб'яднаная ірацкая апазыцыя (больш за 50 партыяў) ладзіць сэмінар за сэмінарам, трэнінг за трэнінгам і кангрэс за кангрэсам, дзе спрабуе дамовіцца аб будучыні краіны пасьля Садама.




У Беларусі на падзеі, што адбываюцца ля берагоў Тыгра і Эўфрата, глядзяць зь вялікай увагай. Трагічны лёс Хусэйна павінен стацьназіданьнем усім астатнім тыранам – Лукашэнка дрыжыць як асінавы ліст.

Тым часам, беларускія «дэмакраты» ўжо паціраюць лапчонкі. «Заграніца вам паможа», – такое пасланьне транслюецца з Іраку мільёнам праамэрыканскіх апазыцыянэраў сьвету. Сапраўды, кожная дыктатура заўсёды непарыўна зьвязаная з супрацівам ёй. Калі вернае параўнаньне Лукашэнкі з Хусэйнам, можна таксама правесьці паралелі паміж анты-хусэйнаўскай апазыцыяй і анты-лукашэнкаўскім «дэмакратычным рухам».

Ірацкая апазыцыя нагадвае сабой плямёны з толкіенаўскага «Валадара пярсьцёнкаў»: скопішча варожых этнічных групаў, антаганістычных канфэсіяў і эканамічных супольнасьцяў, што заключаюць саюзы ці ваююць у залежнасьці ад кан'юнктуры. Дзясяткі абстрактных палітычных лэйблаў аб'ядноўваюць курдаў, шытаў, сунітаў, асырыйцаў, халдзейцаў, былых паплечнікаў Хусэйна, манархістаў, камуністаў, ісламістаў... Вось найбольш яскравыя прадстаўнікі.

**ПАТРЫЯТЫЧНЫ САЮЗ КУРДЫСТАНУ (ПСК).**
Падзяляе, альбо, дакладней, аспрэчвае кантроль над кантрабандай нафты на поўначы Іраку з горцамі народнасьці пэшмэрга – Дэмакратычнай партыяй Курдыстану (ДПК). ПСК падтрымліваецца Лівіяй, Сырыяй і Іранам, ДПК – Турцыяй, Ізраілем і, зрэдку... Садамам Хусэйнам. У 1996 годзе Садам і Масуд Барзані (ДПК) разам змагаліся супраць ПСК. Зараз абедзьве партыі спрабуюць аб'яднацца, прапаведуючы стварэньне фэдэратыўнага Іраку з правам курдаў на самавызначэньне, насуперак Турцыі. Курдзкія інтрыгі вельмі нагадваюць сваркі беларускіх сацыял-дэмакратаў пры актыўным удзеле Рыгорыча і «міжнародных структураў».

**ІРАЦКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАНГРЭС (ІНК)**
Створаны ў 1992 годзе пасьля першай вайны ў Заліве, ІНК узначальваецца Ахмадам Шалабі. Любімая цацка Дзярждэпартамэнту ЗША. З-за адназначна празаходняй накіраванасьці і аддарванасьці ад рэаліяў сваёй краіны, лёзунгам ІНК мог бы быць «Ірак у Эўропу!» Амаль што вячоркаўскі БНФ.

**ВЫШЭЙШАЯ РАДА ІСЛАМСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ ІРАКУ**
Узначальваецца аятолам Махамадам-Бакерам Хакімам, які прапісаўся ў суседнім Іране. Лічыць сябе апосталам духоўнага адраджэньня шытаў Іраку. Разам з факсамі рэзалюцыяў (фатваў), Хакім абяцае прыслаць на барацьбу з дыктатурай 10-15 тыс. воінаў ісламу, што пакуль бавяць час на ваенна-спартовых вышкалах у Іране. КХП-БНФ Зянона Пазьняка можа шмат чаго запазычыць у свайго ірацкага калегі.

**РУХ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗГОДЫ (РНЗ)**
Складаецца ў асноўным з былых верных паплечнікаў (міністраў, афіцэраў, кіраўнікоў рознага рангу) Хусэйна, зь якім яны некалі штосьці не падзялілі. Зараз чамусьці выступаюць за «дэмакратычны рэжым, што базуецца на павазе да правоў чалавека». Проста клон АГП зь яе Лябедзькам, Багданкевічам і іншымі «дэмакратамі».

**РУХ ЗА КАНСТЫТУЦЫЙНУЮ МАНАРХІЮ (РКМ)**
Узначальваецца кузэнам караля Файсала ІІ Ірацкага, што быў зьвергнуты ў 1958 годзе. Калі не лічыць сяброў забытага графа Прушынскага ды купкі «ліцьвінскіх» манархістаў, аналягаў у Беларусі пакуль што ня мае.

**Усе гэтыя плямёны павязаныя спэцыфічнымі эканамічнымі інтарэсамі і маюць свае манапольныя крыніцы фінансаваньня. Калі да ліста дадаць Асырыйскі дэмакратычны рух, Рух вольных афіцэраў і цывільных Іраку, Нацыянальны рух Іраку, Нацыянальны Фронт Іраку, Туркменскі фронт Іраку, Ісламскую згоду, Кампартыю Іраку ды іншых, можна з упэўненасьцю сказаць: апазыцыйная вайна будзе значна даўжэйшай за вайнушку ў Заліве...**

Ірацкім эмігрантам пашчасьціла. Амэрыканцы сфармавалі зь іх урад у выгнаньні. Магчыма калі-небудзь сьвята прыйдзе і на вуліцу беларускіх палітычных уцекачоў.



# ЧНЫ АТЛАС ІРАКУ

## (СТРУКТУРЫ АБ'ЯДНАНАЙ АПАЗЫЦЫІ)



адобна на тое, што Пэнтагон мае сур'ёзныя намеры асядлаць сучасную вавілонскую блудніцу, што завецца Іракам. Напружаная атмасфэра чаканьня немінучай бітвы нагадвае калектыўнае рыхтаваньне да Армагедону. Сілы Зла сплаціліся ў выглядзе г.зв. «антываеннага руху». 15 лютага, ў розных кутках сьвету ісчадзьдзі авядуць свае вулічныя шабашы, дзе будуць спакушаць воінства Буша-малодшага на капітуляцыю.
ра сканцэнтраваліся вакол Мэсапатаміі. З божай дапамогай хутка ым сцэну публічнага пакараньня міжнароднага супастата і ка Садзіка Хусэйна. Мяркуецца, што атаман Восі Зла будзе разбброены некалькімі кропкавымі ўдарамі і пасаджаны на кол ытворцу нязнойдзенай ірацкай зброі масавага зьнішчэньня у кандалы, апрануць у каляровую турэмную сарочку і будуць доўга ь па ўсіх тэлеканалах плянэты. Як некалі Радуеў, Хусэйн ца сусьветнай супольнасьці такім, якім павінен быць кожны ы вораг «цывілізавнага» чалавецтва: рахітычным аблезлым пігмеем росту са спужаным позіркам гарэзы, якога толькі што злавілі але справядлівыя дзядзі і цёці.
ы падвіжніцтву амэрыканскага спэцназу і авіяцыі, дэспатыя падзе цэнамі на нафту. Застанецца толькі адна праблема: паставіць на урпатара богаўгодны рэжым, здольны трымаць у сваіх руках шлянг чнай бясьпекі цывілізаванага сьвету. Таму ўжо сёньня праводзіцца кандыдатаў на кіраваньне вызваленай краінай. За амэрыканскія 92 мільёны даляраў) аб'ядная ірацкая апазыцыя (больш за 50 ладзіць сэмінар за сэмінарам, трэнінг за трэнінгам і кангрэс за м, дзе спрабуе дамовіцца аб будучыні краіны пасьля Садама.




усі на падзеі, што адбываюцца ля берагоў Тыгра і Эўфрата, зь вялікай увагай. Трагічны лёс Хусэйна павінен стаць назіданьнем атнім тыранам – Лукашэнка дрыжыць як асінавы ліст.
ам, беларускія «дэмакраты» ўжо паціраюць лапчонкі. «Заграніца вам , – такое пасланьне транслюецца з Іраку мільёнам праамэрыканскіх янэраў сьвету. Сапраўды, кожная дыктатура заўсёды непарыўна я з супрацівам ёй. Калі вернае параўнаньне Лукашэнкі з Хусэйнам, аксама правесьці паралелі паміж анты-хусэйнаўскай апазыцыяй і кашэнкаўскім «дэмакратычным рухам».
апазыцыя нагадвае сабой плямёны з толкіенаўскага «Валадара нкаў»: скопішча варожых этнічных групаў, антаганістычных ў і эканамічных супольнасьцяў, што заключаюць саюзы ці ваююць у сьці ад кан'юнктуры. Дзясяткі абстрактных палітычных лэйблаў ваюць курдаў, шытаў, сунітаў, асырыйцаў, халдзейцаў, былых каў Хусэйна, манархістаў, камуністаў, ісламістаў... Вось найбольш я прадстаўнікі.

ТЫЧНЫ САЮЗ КУРДЫСТАНУ (ПСК).
е, альбо, дакладней, аспрэчвае кантроль над кантрабандай нафты чы Іраку з горцамі народнасьці пэшмэрга – Дэмакратычнай Курдыстану (ДПК). ПСК падтрымліваецца Лівіяй, Сырыяй і Іранам, урцыяй, Ізраілем і, зрэдку... Садамам Хусэйнам. У 1996 годзе Масуд Барзані (ДПК) разам змагаліся супраць ПСК. Зараз абедзьве спрабуюць аб'яднацца, прапаведуючы стварэньне фэдэратыўнага правам курдаў на самавызначэньне, насуперак Турцыі. Курдзкія зельмі нагадваюць сваркі беларускіх сацыял-дэмакратаў пры м удзеле Рыгорыча і «міжнародных структураў».

НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАНГРЭС (ІНК)
ы ў 1992 годзе пасьля першай вайны ў Заліве, ІНК узначальваецца Шалабі. Любімая цацка Дзяржапартамэнту ЗША. З-за адназначна цняй накіраванасьці і аддарванасьці ад рэаліяў сваёй краіны, і ІНК мог бы быць «Ірак у Эўропу!» Амаль што вячоркаўскі БНФ.

ШАЯ РАДА ІСЛАМСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ ІРАКУ
ьваецца аятолам Махамадам-Бакерам Хакімам, які прапісаўся ў і Іране. Лічыць сябе апосталам духоўнага адраджэньня шытаў Іраку. факсамі рэзалюцыяў (фатваў), Хакім абяцае прыслаць на барацьбу турай 10-15 тыс. воінаў ісламу, што пакуль бавяць час на ваенна-ых вышкалах у Іране. КХП-БНФ Зянона Пазьняка можа шмат чаго ыць у свайго ірацкага калегі.

ЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗГОДЫ (РНЗ)
цца ў асноўным з былых верных паплечнікаў (міністраў, афіцэраў, оў рознага рангу) Хусэйна, зь якім яны некалі штосьці не падзялілі. амусьці выступаюць за «дэмакратычны рэжым, што базуецца на да правоў чалавека». Проста клон АГП зь яе Лябедзькам, евічам і іншымі «дэмакратамі».

КАНСТЫТУЦЫЙНУЮ МАНАРХІЮ (РКМ)
ьваецца кузэнам караля Файсала ІІ Ірацкага, што быў зьвергнуты ў дзе. Калі не лічыць сяброў забытага графа Прушынскага ды купкі скіх» манархістаў, аналягаў у Беларусі пакуль што ня мае.

ня плямёны павязаныя спэцыфічнымі эканамічнымі інтарэсамі і маюць напольныя крыніцы фінансаваньня. Калі да ліста дадаць Асырыйскі тычны рух, Рух вольных афіцэраў і цывільных Іраку, Нацыянальны у, Нацыянальны Фронт Іраку, Туркменскі фронт Іраку, Ісламскую Кампартыю Іраку ды іншых, можна з упэўненасьцю сказаць: йная вайна будзе значна даўжэйшай за вайнушку ў Заліве...

# ЭТНАГРАФІЧ

## (ПЛЕМЯННЫЯ СТР

Ірацкім эмігрантам пашчасьціла. Амэрыканцы сфармавалі зь іх урад у выгнаньні. Магчыма калі-небудзь сьвята прыйдзе і на вуліцу беларускіх палітычных уцекачоў.

ТУРЦЫЯ

СІРЫЯ

ШТАТ КУРДАЎ
не забудзьце запоўніць мытную дэклярацыю

Племя, якое мае імунітэт супраць сібірскай язвы.

Племя работнікаў бэнзакалёнак

1991

2002

Племя турыстычных гідаў.

Племя ананімных спажыўцоў вярблюжынага малака.

# Больш чым Бэн

## Прыгоды расейскіх падонкаў у Лёндане




Расейцам няма чым пахваліцца пра посьпехі фэдэралаў у каўкаскай вайне, але, каб падтрымаць свой нацыянальны прэстыж у бібліятэчцы часопісу *Птюч* (гэты зін для малых новых рускіх як калісьці для камуністаў *Палітінфарматар і агітатар*) выпусьціў кніжку пад тытулам *Больше Бена*, дзе апісваюцца прыгоды двух маскоўскіх боўдзілаў (адзін зь іх зьехаў з бандэраўскага Львова, але ўсё адно «чалавэк рюскай културы», як данецкі падлетак Савенка) у сталіцы «залатога мільярду» Лёндане. Спайк і Сабаккаа паехалі за мяжу, каб красьці прадукты і начаваць пад мастамі, чым яны пасьпяхова і займаюцца. У прадмове аўтары сьцьвярджаюць, што мэта іхнай пісаніны – вывесьці расейскую літаратуру з адстойнага тупіка, у якім яна апынулася, нягледзячы на неблагі творчы патэнцыял. Акрамя літаратурных якасьцяў, якія апісаў прафэсар кіслых шчэй постмадэрнізму В.Курыцын (пісаніна на слэнгу, паралельнае апавяданьне ад дзьвюх асобаў і г.д.), аповесьць мае тэрапэўтычнае значэньне для моцна пакрыўджанай акалічнасьцямі апошніх дзесяцігодзьдзяў «рускай душы»: «героі» абсцыкаюць кут дома Ані Ленакс, крадуць і дасягаюць віртуознасьці ў дробных крадзяжах у супэрмаркетах, якіх у Лёндане 90% трымаюць пакістанцы, на вачах у абдоўбаных сэк'юрыці. Самі начуюць як гарадзкія партызаны ў хлявах, на вакзалах, на лавачках у парку, зьдзяйсьняюць дробныя злачынствы: бяруць бясплатныя мабілы, а пасьля сьпіхваюць гандлярам крадзенага, урэшце бяруць крэдыт на вучобу і звальваюць дахаты, карыстаюцца славутай «прэзумпцыяй невінаватасьці» і мэханічнасьцю дзеяньня ангельскага заканадаўства. Уся гэтая макулятура была б больш-менш цярпімай чытанкай, калі б не несусьветныя прэтэнзіі «падонкаў» на нейкае сацыяльнае значэньне і пэўную «місію» ў грамадзтве кібаргаў, яны нібы дадаюць долю «авантурызму і растрындзяйства» «карнэгіянцам», якім гэта не пашкодзіла б. Гэта як бы «спэцыялісты па матрыцы», якія выпрабоўваюць сыстэму на магчымыя збоі.

Самі ж аўтары пішуць, што красьці горш за ўсё там, дзе ў краме працуюць такія ж падонкі, а не адорвы-пакістанцы з касякамі ў зубах. З «рэвалюцыянэраў»-падонкаў 1968 году вырасьлі вынаходнікі нэалібэралісцкай арганізацыі працы. З былых хакераў атрымліваюцца выдатныя экспэрты па бясьпецы Сыстэмы. Кепачка з надпісам нэанацысцкага брэнду LONSDALE ня больш чым рэклямны трук, разьлічаны на тое, каб уразіць хатніх хлопчыкаў з памкненьнем да дробнабуржуазнага індывідуалістычнага бунту. Спайкер зараз забурэў, яго морда сьвеціцца на маскоўскай тэлевізіі, дзе ён вучыць жыць і выжываць ва ўмовах дзікага капіталізму. Хай паспрабуе зьезьдзіць у Менск і стырыць пачак печыва ва ўнівэрсаме «Цэнтральны»! Сьвінячыць далёка ад дома, а пасьля паводзіць сябе як рахманы буржуа – вышэйшая форма буржуйскага сьвінства. Што да асацыяцыяў з Керуакам і бітнікамі, якія Сакін спрабуе навязаць нездагадлівым чытачам – вядома, у Лёндане добра панкаваць і хіпаваць. Але ж амэрыканскія і ангельскія хіпаны ня езьдзілі ў Маскву за «порцыяй свабоды», ім са сваёй прэзумпцыяй і дома няблага. Нават часам зашмат. Можа зьявіцца цікавая форма бартэрнага турызму: перасычаныя свабодай і бяскарнымі дробнымі злачынствамі заходнія аматары экстрыму будуць езьдзіць да нашых ці маскоўскіх доблесных ахоўнікаў парадку за порцыяй дубіналу, а дэлегацыі падонкаў з нашага боку будуць бамбіць іхнія прыгожыя супэрмаркеты●

**А.Белы,**
СУМЛЕННЫ ЛІТАРАТАР

## ПАмятныя дАты

### 2 лютага нарадзіўся Джэймс Джойс,

і калі б не заўчасная сьмерць у 1941 годзе, аўтар легендарнага *Уліса* дажыў бы да сваёй славы, а сёньня яму было б ужо аж 121 год. Слава *Улісу* прыйшла пасьля вайны, пры жыцьці раман, які стаў клясыкай і канонам сучаснай ангельскай (і ня толькі ангельскай) літаратуры, выдаўцы мэтадычна адсылалі назад. Наколькі Джойс стаў ангельскай літаратурай сьведчыць эпізод з авантурнага раману Алана Сілітоў *На пачатку дарогі*: ягоны герой трапіў да пісьменьніка (які аказаўся ягоным бацькам) і набірае на машынцы чарговыя опусы. Калі Алану станавілася нудна, ён браў з паліцы томік Джойса і перадрукоўваў улюбёныя месцы. Крытыкі не заўважалі падмены, але пісалі, што ў творчасьці пісьменьніка адкрылася новая небывалая глыбіня.

Джэймс Джойс быў «нязручным» для ангельскіх выдаўцоў, а ў СССР увогуле лічыўся махровым буржуазным рэакцыянэрам, і *Уліс* надрукавалі па-расейску толькі ў канцы 80-х, калі авангард перастаў адназначна асацыявацца з фашызмам, гомасэксуалізмам і жыдамасонскай змовай. Па-беларуску ў перакладзе Я.Максімюка аказаўся ў 1995 годзе толькі першы том *Улісу*, другі яшчэ чакае свайго часу, зрэшты таксама як *Дублінцы*, *Памінкі па Фінэгану*, *Партрэт мастака ў юнацтве* і шматлікія вершы Джойса. Гарачы патрыёт Ірляндыі, тым ня менш ён выступаў супраць ідэалізацыі ў духу нацыянальнага рамантызму гісторыі краіны, назваўшы ў лекцыі «Ірляндыя, востраў сьвятых і вучоных» гісторыю сваёй айчыны «шэрагам непатрэбных паўстаньняў і непазьбежных здрадаў». У лісьце да выдаўца Джойс пісаў, што той, хто затрымае выхад ягоных *Дублінцаў*, надоўга затрымае разьвіцьцё Ірляндыі, бо пашкодзіць ірляндцам паглядзець на сябе ў добра адпаліраванае люстра.

**Браян О'Браян**

# Яшчэ адно «нішто»

Юра Барысевіч напісаў чарговую кніжку пра свае бурлівыя сэксуальныя фантазіі, якіх беларускага інтэлектуала з моманту выхаду ягонай першай кніжкі *Тэла і цекст* набралося акурат на новую кніжку пад зацейлівай назвай *Alter Nemo* – «Другое Ніхто». Юрына Другое Ніхто – гэта, як можна здагадацца, сам аўтар у сваіх нязьдзейсьненых полавых летуценьнях, якім ён намагаецца даць унівэрсальны характар, напісаўшы свой інтымны дзёньнік у выглядзе навуковых досьледаў чалавечай натуры.

*«У жывой чарзе адчуваеш сябе ўдзельнікам калектыўнага сэксуальнага акту: людзі складаюць велічэзны напружаны пэніс, а крама, у якую яны ўваходзяць, каб неўзабаве выйсьці, да ўтульнай цёплай*




*вагіны... Але ня кожная эрэкцыя сканчаецца аргазмам. Да чаго б не імкнуліся людзі – на ўсіх не стае...»*

Такімі вось эратычнымі сэнтэнцыямі перасыпаў Юра свае незацейлівыя псэўдафілязофскія загрузы. Тэма чаргі перамяжаецца з тэмай тэхналягічнай утопіі, а ўсё разам – з правакацыйнымі заявамі кшталту:

*«Калі-небудзь зьдзейсьняцца таемныя мары некаторых людзей мець німб сьвятога над галавой, трэцяе вока, два пэнісы ці нейкую асаблівую прыкмету машыннага паходжаньня: рэактыўныя турбіны, колы заместа ног, антэны на галаве.»*

Паводле глябальнага ахопліваньня тэмаў опусы Барысевіча часам нагадваюць мэтафізычныя фэльетоны іншых геніяльных дылетантаў беларускай інтэлектуальнай арэны, а яшчэ больш – маналёгі эстрадных гумарыстаў, дзе псэўданавуковы наратыў перамяжаецца дасьціпнымі жартамі, каб не напружваць свайго слухача ці чытача. У Барысевіча менавіта на гэтай юрлівай арнамэнтыцы і канцэнтруецца асноўны сэмантычны мэсэдж усяго тэксту: на незамыславатую сафістыку ў стылі тэхна наўрад ці хто будзе зьвяртаць увагу, а пра чувака з двума пэнісамі запомняць надоўга. Нажаль нядоўгі – усяго 100 старонак – запал самога Барысевіча на гэты псэўдафілязофскі загруз, рэштка кнігі – гэтак званае «і г.д.» прадстаўляе самыя розныя матэрыяльчыкі ад чыста газэтнага рэпартажу пра творчасьць скульптара Андрэя Вераб'ёва да глыбокамысьленых афарызмаў, дзе таксама праглядваюцца глыбока асабістыя падсьвядомыя страхі і трымценьні:

*«Часам страшна бывае сядаць на ўнітаз: а раптам ад цябе нічога не застанецца?»*

Таму Юра і піша свае кнігі, ў надзеі, што тое, што ён вы...клаў на паперу і надрукаваў у маскоўскім выдавецтве «Т-Сервис» застанецца надоўга, прынамсі 143 старонкі пойдуць ва ўнітаз не адразу. Ягоны ідэйны папярэднік – ангельскі скульптар Марк Куін, які робіць аўтапартрэты з уласных экскрэмэнтаў, бо лічыць дэфекацыю «першасным творчым актам». Падобнае «мастацтва», трэба сказаць, беларускаму народу знаёмае. Ёсьць красамоўная прымаўка: «Гэта табе не з хаўна конікаў ляпіць», дзе ўзгаданы жанр лічыцца ня вартым увагі марнаваньнем часу. Для Барысевіча «постмадэрнізм» – гэта поўная ўседазволенасьць, калі сьціраньне ўсіх магчымых межаў, пераварочваюцца ўяўленьні і стэрэатыпы. Што ён хоча сказаць, што хаўно – гэта мастацтва, ці што мастацтва – гэта хаўно, вырашыце самі, але зрэшты гэта няважна. Прынамсі ў дачыненьні да кніжкі Барысевіча●

**Гаген звонку**

## ГлыбІнка

# Ратамка: Загадкі і адказы – невідочная сувязь

Ратамка... Чалавек, не спакушаны ў любові да прыгожага, мог бы неахайна кінуць: «А, гэта там, дзе падлешчык добра клюе...» Але любы аматар красы (хай тое комівояжор, што прадае ўзьдзечкі, або які-небудзь небарака, што ехаў на электрычцы ў Радашковічы, але якога ссадзілі кантралёры ў Ратамцы) зразумее словы выбітнага літоўскага палітыка Нэрыюса Мэльцэраса, напісаныя ў 1940-м годзе ў лісьце да Сталіна: «Ды ня трэба нам вашая Вільня, давайце лепей Ратамку». Аднак, гаворка пойдзе не пра красу тутэйшых куткоў. Мэта гэтага артыкулу – пазнаёміць чытача зь некаторымі з найбольш памятных і гістарычна важных месцаў Ратамшчыны.

Пачнем, бадай, зь невыразнай, на першы погляд, пляцоўкі, дзе ў нашыя дні раскінулася конкурнае поле. У дакумэнтах XIV-XV стагодзьдзяў гэтае месца ўзгадваецца як «Лобная паляна». Вось, напрыклад, ліст легендарнага літоўскага рыцара Ягманціса Злобнага, напісанае ў 1410 годзе:

«О, падобная да сумнага сьвячэньня Месяца, панна Марыся. Зноў вымушаны паведаміць пра маю затрымку ў гэтых дзівосных месцах. Справа ў тым, што заўчора пад Грунвальдам мы з ратамскімі паламалі тэўтонскіх пацаноў, вызваліўшы Эўропу ад іх беспрадзельшчыны. І заўтра трэба будзе чыста паказаць усім што бывае, калі нам рамсы перабіваць. Для гэтага на ратамскай Лобнай паляне мы ўчынім з палоннымі крыжакамі гульню «Грунвальдзкія крыжыкі-нулікі», пасьля чаго коні ўтопчуць у зямлю тэўтонскія трупакі (дарэчы, на гэтай паляне атрымалася б нядрэннае конкурнае поле, скажу-ка пра гэта Вітаўту). На гэтым скончаю свой ліст. Вечна твой пушысьцік Ягманціс».



Жыхары Ратамкі выконваюць сьвяшчэнны абрад пакланеньня сьледу іншаплянэтнага карабля.

Таксама, як і пра Лобную паляну, мала хто зь мясцовых жыхароў ведае пра тое, што ў доме, на месцы якога цяпер стаіць ратамскі клюб, пабываў напярэдадні першай сусьветнай вайны аўстрыйскі эрц-герцаг Фэрдынанд, каб наведаць вядомую гадалку. Аднак той не надаў адпаведнага значэньня словам цыганкі: «Ня езьдзі ў Сараева, бо заб'е цябе там Прынцып». Фэрдынанд пісаў пра гэты выпадак: «Або сапраўды бываюць такія дзіўныя прозьвішчы, або гэтая правідзіца даведалася, што я прынцыпова ня ем рыбныя прадукты з хлебам, а толькі з гамбургскімі ляпёшкамі...»

Яшчэ адно, безумоўна, значнае месца – гэта будынак мясцовай АТС. На пачатку XX стагодзьдзя там, як і цяпер, знаходзілася тэлефонная станцыя, дзе У.І.Ленін са сваімі таварышамі па партыі адпрацоўваў у 1916 годзе прыёмы захопу тэлеграфу, рыхтуючыся да дзяржаўнага перавароту. Вось фрагмэнт ягонага ліста Дзяржынскаму:

«Дарагі Фэлікс, яшчэ нямнога, і мы давядзем нашае мастацтва захопу тэлеграфаў да поўнай дасканаласьці. Увогуле, шкада, што ты не паехаў з намі – тут вельмі прыгожыя месцы і да дзіўнасьці танны самагон у цыганаў. А пра тое, якія ў Ратамцы дзеўкі жывуць, я нават і казаць ня буду... Але вярнуся да справаў: будаўнікі цяпер спраўляюцца ў тэрмін, бо мы з кожным разам авалодваем будынкам усё зь меншымі разбурэньнямі. А вось старажоў-прыхільнікаў манархіі вышлі яшчэ штук сорак – вельмі вялікі расход – нашы хлопцы стараюцца й патронаў не шкадуюць.

Ну ўсё, пакуль!

P.S. Да, разьбярыся там з чуткамі наконт Троцкага й Надзежды Канстанцінаўны».

І апошняе месца, якое нельга абмінуць увагай – пляцоўка перад будынкам чыгуначнай станцыі «Ратамка». Менавіта там у ліпені 1996 году Пецька Дзюбель упершыню наваляў Лёньку Крывому. На гэтым скончым наш кароткі экскурс па гістарычных месцах Ратамшчыны, хаця тэма гэтая, вядома, далёка ня вычарпаная●

**Янка Кусто**

# Касьмічныя каўбоі застаюцца на Зямлі

## Апошнія няўдалыя выпрабаваньні NASA нібыта дамоклава дубіна рубанула па карках галівудзкіх кінаварацілаў

Хто ня памятае, як на жахлівыя падзеі 11 верасьня адрэагавала ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. І ўсе памятаюць, што вымушаны быў зрабіць Галівуд: на карані былі зачыненыя праекты фільмаў-катастроф, зьнятыя з кінапракату фільмы, дзе проста быў нейкі асацыятыўны шраг «хмарачос–самалёт–выбух–сьмерць» і г.д. Зьнішчэньне сымбалю Нью-Ёрку – хмарачосаў-блізьнюкоў – каб ня сыпаць сапраўдным амэрыканцам соль на сіняк, проста за назву «Дзьве вежы» амаль што не сарвалі ўсю маштабную раскрутку другой часткі прыгодаў хобітаў. Сёньня, нажаль, гісторыя паўтараецца. Не пасьпеў Буш-малодшы прыняць сонечныя ванны ў Іраку, як новая бяда, новы траур: зь неба зваліўся касьмічны човен – шатл. Гэтая жудасная катастрофа павергла ў шок усіх заакіянскіх спэйс-рамантыкаў.

А вось прагматычны Галівуд відавочна пачне зноў падлічваць грошы ад неспадзяваных стратаў з-за няўдачнікаў з NASA. Другія зорныя бойкі Лукаса ўжо адгучалі, але з кожным шматбюджэтным праектам заўсёды рухаюцца фільмы-спадарожнікі, каб у ценю блокбастэра закалымiць і сабе нямнога масьліца на гамбургер. Хутчэй за ўсё гэтым стужкам прыйдзецца на некаторы час кінуць косткі ў галівудзкіх запасьніках, каб суровыя амэрыканскія сэрцы не былі расчуленыя нечаканай узгадкай пра загінуўшых астранаўтаў.

Першым у чарзе фільмаў-лузэраў канешне стаіць **«Плута Нэш»** з развясёлым

### Эдзі Мэрфі,

якому надакучыла змагацца зь лішняй вагой і падраблiць айбалітам. Цяпер гэты афраамэрыканец у скафандры займаецца камэрцыяй на Месяцы. Раскруціўшы адстойную «кропку» – захудалы бар па продажы кока-колы з градусамі – галоўны герой трапіў у поле зроку лунных браткоў. Не знайшоўшы кансэнсусу, бандзюкі проста пусьцілі небараку пеўня пад дах і пачалі паляваньне на незадачлівага каапэратара. Тут і пачынаюцца пагоні і выбухі на фоне касьмічных баз і лунных кратэраў, крушэньні і сьмерць у беспаветранай прасторы – відовішча, якое можа падламіць і так хваравлівае сэрца дзядзькі Сэма. А вось рэжысэру

### Джонатану Фрэйксу

(«Зорны шлях: паўстаньне») і ягоным сябрам акторам Бэну Кінгслі і Білу Пэкстану прыйдзецца моцна задумацца, ці не адкласьці запляванаваную на сакавік камандзіроўку на Сэйшэльскія астравы. Там яны заплянавалі здымкі кінавэрсіі знакамітага футурыстычнага мультсэрыялу **«Маланканосныя»**. Уся іронія лёсу ў тым, што герой фільму, былы астранаўт, стварае ўнікальную службу ратаваньня, здольную імгненна апынуцца на месцы любога здарэньня, дзе б яно ні было – на сушы, у вадзе, паветры, у космасе... Ён павінен дапамагчы дванаццацігадоваму хлопцу вырваць з лап немінучай сьмерці тату і чатырох братоў... І што ж загадаеце зараз рабіць аж тром прад'юсэрам, якія вызваліся працаваць у гэтым праекце?.. Без камэнтароў. Тым часам пяшчотныя сэрцы хатніх гаспадыняў зможа суцешыць і супакоіць толькі добрая камэдыя ад

### Братоў Фарэлі

**«Прыліпшы да сябе»**. Гэтая стужка напэўна будзе напоўненая добрым і мілым сямейным амэрыканскім гумарам. Гаворка пойдзе пра двух сіямскіх блізьнятаў, адзін зь якіх вырашыў паехаць у Галівуд. Там іх (ці аднаго з іх) будуць чакаць розныя рамантычныя прыгоды. У гэтай херацені браты-неблізьняты Фарэлі задзейнічалі актораў, якія не пасьпелі паддацца касьмічнай рамантыцы палёту да зорак: Эва Мэндэс («Трэніровачны дзень», «Фарсаж-2»), Мэт Дэйман («Ідэнтыфікацыя Борна») і Грэг Кунір («Лепш не бывае»). Разлік аўтараў просты: перад вайной-«вазьмезьдзем» з Садамам усім амэрыканцам патрэбна ўсяго толькі трымацца разам




## Загінула Троя, загінуў Рым...

**«ЗА ШТО БАРОЛІСЬ?..»**




*1846 год -...*

**БАНДЫ НЬЮ-ЁРКУ**

**Фільм Марціна Скарсэзэ**
**У ролях: Леанарда Ды Капрыё, Кэмэран Дыяз**

1. Янкі супраць новых пасяленцаў, злы чувак забівае тату хлопца.
2. Хлопца адпраўляюць у дзіцячы прытулак.
3. Ён вяртаецца ў горад праз дзясятак год.
4. Ён ужываецца ў банду чувака, які замачыў ягонага бацьку.
5. Ён заўжды ўзгадвае свайго бацьку.
6. На хлопца намагаецца данесьці былы сябар.
7. Хлопец ратуе жыцьцё свайму ворагу.
8. Падчас выбараў у гарсавет загінула шмат народу, толькі 25.000 параненых.
9. Апошняя разборка – «плахіш» загінаецца.
10. Невядома, ці паехаў ён зь сяброўкай ў Сан-Францыска па золата.

**«НА ШТО НАПАРОЛІСЬ...»**




*1963 год -...*

**ЗЛАВІ МЯНЕ, КАЛІ ЗМОЖАШ**

**Фільм Стывэна Спілбэрга**
**У ролях: Леанарда Ды Капрыё, Том Хэнкс**

1. Янкі трахаюць мозгі за няўплату падаткаў бацьку хлопца і высяляюць іх.
2. Хлопец павінен вызначыць, з кім ён застанецца, з татам альбо з мамай.
3. Сутыкаючыся з бракам грошай, хлопец намагаецца расплаціцца з дапамогай чэкаў.
4. Ён прасёк усю тусоўку і пачаў выдаваць сябе за пілота самалёту.
5. Ён купляе свайму бацьку кадзілак.
6. На ягоны след селі копы, а ён – ужо вядучы пядыятар.
7. Ён на кожныя каляды віншуе копа са сьвятам.
8. За сваю дзейнасьць хлопец скраў больш за 4.000.000 даляраў.
9. Яго зловілі ў Францыі.
10. Цяпер ён працуе на ФБР.

*Абавязкова пагледзіце гэтыя фільмы. Амэрыкі няма. Вельмі істотна, што М.Скарцэза на апошніх кадрах паказвае Нью-Ёрк яшчэ зь ягоным неўміручым сымбалем. Вельмі істотна, што герой Леанарда ДыКапрыё вытрахаў мозгі ўсёй сыстэме. І ў 1860 .. і ў 1969... яны набліжалі, як маглі, гэты дзень перамогі...*

BANKER_KV@YAHOO.COM

## Шаноўныя аматары касьмічнай фантастыкі!

**Калі вы абураныя рэпрэсіямі супраць новых стужак пра спэйс-эпапеі і пераможныя бойкі зямлянаў з іншапланэтнымі захопнікамі ды іншым міжзорным сьмецьцем у сувязі з прафэсійнымі няўдачамі некаторых супрацоўнікаў NASA, дасылайце свае гнеўныя мэсэджы на адрас Саюзу Кінематаграфістаў ЗША: oscar@tut.usa**

## ! Таварышы дарослыя ! Хавайце відэакасэты ад дзяцей !

### Кіно вачыма дзіцяці






Калі тата і мама пайшлі да цёці сьветы, у іхнай шуфлядзе я знайшла вось што...

Гэтая фантастычная гісторыя падлетка з добрай сям'і, які лечыцца ў псыхіятра, так як церпіць на душэўны недуг. У трызьненьнях Доні зьяўляецца дзіўны пасланец, які прадказвае дату надыходзячай катастрофы, але яе можна прадухіліць, калі прымусіць час рухацца назад. Аднак кошт за гэта будзе вельмі вялікі. Цікавасьць фільму ў тым, што дзіўнаваты сюжэт разыграны ў звычайнай жыцьцёвай сытуацыі – сям'я, школа, разумныя і глупыя настаўнікі, першае каханьне. Вечныя пытаньні, якімі задаецца герой, прачыняюць ягоны нярoсты унутраны сьвет...

**ДОНІ ДАРКО**
**У ролях: Джэйк Гілэлхал, Джэна Мэлоўн, Дру Бэрымар.**



Дзядзя быў хворы і піў таблеткі.



Да яго прыйшоў заяц-трус. "Я сачу за табой" – казаў трус, і на дом упала частка самалёту.




Нехта ўдарыў бронзавага сабаку сякерай.



"Я магу рабіць усе што жадаю, і ты таксама"



Нехта падпаліў хату дзіцячага парнографа.



Дзядзя зь сяброўкай пайшлі ў кіно, там яны сустрэлі труса.



Калі трус машынай задавіў сяброўку, дзядзя выстраліў яму ў вока.



На дзядзькін дом упала частка самалета, а сяброўка цікавіцца, што адбылося.

І ў мяне таксама есьць сябар – пятачок!

 



# Ад Масяні сыйшоў Хрундзель!

## *Шоў-бізнэс разлучыў галоўных кібэрнэтычных каханкаў*

На ўсёй постсавецкай інтэрнэт-прасторы пранеслася «жахлівая» вестка – Масяні больш ня будзе. Аўтара тлустай дурной цёлкі з дэбільным голасам Алега Куваева выкінулі з ТАА «Масяня», якой ён перадаў на 3 гады правы на камэрцыйнае карыстаньне вобразам Масяні, і перакрылі яму доступ на ягоны ўласны сайт Мульт.Ру. Асабліва эмацыйна няўстойлівыя фанаты могуць забіцца ў гістэрыцы, многія ўжо б'юцца, распачаўшы ў нэце кампанію, «выратуем Куваева, вярніце народу Масяню». Гэта стала навіной тыдня, што ідзе перад тэрактамі і выбухам амэрыканскага касьмічнага «чаўнака» Colambia. Фанаты абяцаюць разьнесьці офіс фірмы «Масяня» і на яго абломках усталяваць жывы помнік таму Куваеву. Іншыя гатовыя згрызьці аўтара за тое, што прадаўся буржуям разам з Масяняй і патрахамі, а цяпер сядзіць, як бабыль без сваёй бабыліхі. Непадрыхтаванаму да ценявой палітыкі шоў-бізнэсу гэтая падзея можа нагадаць эпізод рок-н-рольнай бівіса-батхэдаўскай амэрыканскай камэдыі «Сьвет Уэйна» з Майкам Маерсам у галоўнай ролі (гэта той, што зараз Осьцін Паўэрс, там ён такі самы), дзе два лаха прадаюць правы на сваю ўласную перадачу некім тэлемагнатам, а пасьля вылятаюць зь яе, бо адмаўляюцца рэклямаваць пыласосы спонсара. Масяню прыкрылі таксама нібыта з-за фінансавых праблемаў і, як гэта падаецца ў СМІ, неадпаведнасьці аўтара










вобразу ўсенароднай любіміцы. Аднак усё гэта выдае крутую піар-акцыю па раскрутцы камэрцыйна пасьпяховага брэнду – традыцыйным шляхам скандалу. Зараз пачалася мышыная вазьня вакол заснаваньня Куваевым новага праекту Хрундзель.ру, дзе ён быццам бы нелегальна пару дзён таму выклаў новы мульцік пра Масяню, а паганцы з Мульт.ру сьпёрлі яго і выклалі на цяпер ужо свой сайт. Назіраюцца ўсе прыкметы скандалу: Куваеў гоніць на ТАА «Масяня» – «...кроме договора с НТВ всё остальное делалось через жопу.» ТАА «Масяня» ігнаруе аўтара і, па чутках, плянуе наняць новых мастакоў. Аднак усім зразумелы сапраўдны сэнс гэтай гісторыі: будзе больш прадавацца маечак, значкоў, можа хто захоча правы перакупіць. А Куваеў пакуль праект Хрундзель раскруціць, таксама грошы, правы і маечкі...●

**Бівіс,**
МУЛЬТ-АНАЛІТЫК

# *Каляндарная Галерэя*




А пошнія дні ў галерэі «Нова», што ў бібліятэцы імя Я. Купалы, праходзіць чарговая фотавыстаўка. Яна прысьвечана выхаду ў сьвет нейкага там календара сумесна зь нейкай там фотафірмай. Пра фірму больш нічога не скажу, каб не ператвараць артыкул ў рэкляму. Галоўнае – што ў гэтым насьценным календары выкарыстаны дванаццаць фотаздымкаў беларускіх, ў большасьці маладых, фатографаў.

Вось гэтым рыцарам фокуса ды затвора й прысьвечана эксгібіцыя. Цікава, што на гэты раз экспанаты не зьвязаныя нейкай адной ідэяй. Хутчэй наадварот. Такой вялікай жанравай разнастайнасьці раней не сустракалася. Вінаватая спэцыфіка канцэпцыі: не зьвязаныя адна з адной працы, проста разьмешчаныя на дванаццаці месяцах аднаго года.

Адразу пры ўваходзе ў залю, зьлева, вы можаце пабачыць вінавайцу падзеі – узор таго самага календара. Зьнешне ён выглядае як самы звычайны. І толькі лагатып фірмы-спонсара на кожнай старонцы ды жудасны ганарысты тэкст на шматке паперы, які вісіць на сьцяне недалека, гавораць аб тым, якую унікальную рэч вы зараз бачыце. А далей на сьценах разьвешаныя фотаздымкі.

Вось тады й пачынаеш разумець, што завецца «жанравай разнастайнасьцю». Каля трыццаці прац – і ўсе розныя. Тут і пастановачныя фотаздымкі з удзелам прафэсійных мадэляў (бедныя дзяўчынкі, яны стаялі басымі на сьнезе), тут і моцна апрацаваныя рукамі ды кампутарам эцюды з сэрыі «Бабочка», тут і простыя здымкі тыпу «з затвору на паперу», цікавыя строем кампазыцыі ці колеравымі вырашэньнямі. Нават, пара нацюрмортаў ёсьць. Часам пазнаеш знаёмы калізэй рынку «Дынама» ды зьдзіўляесься, які ж ён тут прыгожы!

Увогуле галерэя «Нова» амаль кожны месяц радуе новымі цікавымі працамі. Некалькі тыдняў таму мы малі шчасьце пабачыць сэрыю «Дыгітальны Дагер» сусьветна вядомага Джуліана Гранта. Зараз вось гэтае...

Асабістае ўражаньне. Раней, кожны раз, калі я прыходзіў на чарговую эксгібіцыю ў бібліятэку, я заўсёды бачыў зачыненыя дзьверы. Трэба было зьвяртацца ў «аддзел маркетынгу», каб зьвяглівая бабка пад няспыннае мармытаньне брала ключ ды адчыняла галерэю. Я глядзеў яе ў гордай адзіноце, потым клікаў тую ж бабку, каб зачыніць пакой. Але ў гэты раз я, калі прыйшоў, ужо сустрэў там пару наведнікаў. Я быў вельмі зьдзіўлены. Прыемна, што ў народа павялічваецца інтарэс да фотамастацтва!●

**Родчанка,**
ФАТОГРАФ

# *«Лісты з Ангбанду»*

## Цяжкія будні ралевікоў

**Клуб рэканструктараў** вайсковай уніформы часоў Другой Сусьветнай Вайны «Comrades In Arms» запрошаны на фэстываль «Воронка», які будзе праходзіць пад Санкт-Пецярбургам дзявятага траўня. Па праграме фэсту абяцаюць халяўнае сілкаваньне ды жыцьцё «ва ўмовах, набліжаных да баявых». Што гэта будзе значыць – альбо самастойнае выкопваньне зямлянкі, альбо стрэлы ўначы, альбо «немного крупы перловой, немного коры дубовой, немного дорожной пыли, немного болотной тины» на сьнеданьне – пакуль ніхто ня ведае. Ну, а для беларуса галоўнае, каб недалёка быў лес. І тады ніхто ня возьме. Толькі бы не забыцца на рыдлёўкі.

**У суботу, першага лютага**, прайшла ролевая гульня-куханка «Вежа» ад клюбу Кайталан ды некалькіх вольных гульцоў. Удзельнічала каля дваццаці пяці чалавек. Сюжэт – магія, магія, магія, вакол якой – воспа, воспа, воспа. Сярод пэрсанажаў было некалькі магаў, некалькі алхімікаў, некалькі лекараў, некалькі сьпірытыстаў, некалькі духаў, некалькі самых звычайных дэманаў ды адзін прэстыдыжытатар. Інакш кажучы, фокусьнік. Прысутнічала таксама інквізыцыя ды крымінал. Гульня прайшла на «ура», толькі з антуражам было цяжкавата. На момант пачатку меўся толькі адзін сьвітак з заклёнам, калі патрэбна было каля дваццаці. І нават гэты не дажыў да канца.

**Зноў распачынаюцца майстар-клясы** гульлёвай магіі ад спадара Даэрона. Як стала вядома з аб'явы на беларускай старонцы форума Tolkien.ru, першы сэмінар адбыўся ў аўторак, а 19-ай гадзіне. Даэрон – вядомы гульлёвы маг, крэатар эксклюзыўных закленаў ды магічных канцэпцый – займаўся распрацоўкай сыстэм магіі пад заказ ды магічным кансалтынгам. Вядома, што яго майстар-клясы павінны карыстацца папулярнасьцю, а калі не – то гэта з-за дрэннай пі-ар ды рэклямнай кампаніі. Таргет-гроўп цякучых сэмінараў, у асноўным, маладыя майстры ды пачынаючыя гульцы. Усім зацікаўленым, напэўна, трэба шукаць Мадрэ.

**Цывік Агідны**

*P. S. Калі вы маеце нейкую інфармацыю, якая датычыцца ралявых, рыцарскіх альбо талкіенісцкіх падзеяў краіны, пішыце на **civic_agidny@tut.by**.*

# *Нэкралёг*

## Сьветлая памяць

**Яшчэ адзін удар накрыў аматараў музыкі. Зноў нечаканая страта. У ноч на 3 лютага ад «сардэчнага» прыступу памёрла скандальная жанчына, сьпявачка, актрыса, манэкеншчыца, пісьменьнік Натальля Мядзьведзева. Памерла сучасная Эва Браун. Усё яе правакацыйнае жыцьцё на шчасьце дакладна апісана ў аўтабіяграфічных раманах: дзіцячы пэрыяд у кніжцы «Мама, я жуліка кахаю», быт манэкеншчыцы «Гатэль Каліфорнія», пра 5-га мужа – «Каханьне з алькаголем», «Мая барацьба» і «Дзёньнік Марго Фюрэр».Ніколі не пачуем яе асіплы голас, ня пройдуць яе доўгія ногі праз нас. Алчная бабішча і творчая асоба няўмольна набліжалася да крытычнага жаночага ўзросту. Але ж не жадала і баялася клімактэрычнай сівізны. Таму і памерла 45-гадовай валявой і моцнай жанчынай. Аб яе сэксуальнасьці ўжо зараз складаюць легенды. Смуткуем разам зь яе шасьцю былымі мужамі.**



# *Куток спажыўца*

## Шляхетная сьмерць

Татальнае абмежаваньне імпарту замежных цыгарэтаў мае на мэце ня столькі падтрымку айчыннага вытворцы белых палачак, колькі выхаваньне ў беларускіх спажыўцоў павагі да нацыянальнай улады. Што нам заморскія каштоўнасьці ды прысмакі – «Парлямэнт», «Прэзыдэнт» з амэрыканскім сьцягам (у нас заўсёды будзе свой Бацька, першы і адзіны) ці ўвогуле які-небудзь вярблюд. Нам трэба сваё, беларускае, і ў гэтым сэнсе вельмі пасьпяховай можна лічыць Гарадзенскую табачную фабрыку, якая даўно пераплюнула менскіх калегаў з іх «Каронай» і выпусьціла спачатку цыгарэты «Прэм'ер», і вось нядаўна – «Магнат». Стыльныя чырвоная пачка зьмяшчае клясычныя 20 цыгарэтаў зь фільтрам, выробленых «з табачнай сумесі амэрыканскага тыпу», цікава толькі, як і з чаго гэты тып выробляўся і як у нашых натуральных умовах дасягалася сынтэтызаваная амэрыканская якасьць. Аднак з дакладнасьцю можна сьцьвярджаць, што ўжо ад аднаго трыманьня пачкі ў руках, а тым больш ад паленьня цыгарэтаў, ўзьнікае стойкае усьведамленьне сябе ні нейкім там спадчынным шляхцічам, а




сапраўдным магнатам, зьяўляецца пагардлівае стаўленьне да людзей і смак перамогі ў роце. Слоган на пачку «Калі паліць – то праверанае часам!», значна больш прывабны, чым «Паленьне шкоднае для здароўя», таму не зьдзіўляйцеся, калі ваш сынку-немаўля ці малодшы брацік вельмі рана стане злосным магнатам,.. цьфу, курыльшчыкам●

**Фідэль Кастра,**
ТАБАКАЗАНАЎЦА



 

# *Як адиягнуцца...*

## Па-дзявочаму

Напярэдадні саладзенькага «сьвята» ў латэкснай упакоўцы – дня св.Валяньціна – нашыя гарады папросту заваленыя адпаведнымі арсэёскімі камандамі. Пятнаццацігадовыя дзяўчынкі могуць клянчыць у матулі (або 30-гадовага бойфрэнда :) бабак на канцэрты **СМЫСЛОВЫХ ГАЛЛЮЦИНАЦИЙ (КЗМ, 13.02/19:00)** альбо **МУМИЙ ТРОЛЛЯ (Менск, Лядовы палац, 17.02, па астатняй Беларусі 14-18.02)**. І каб аб адзінаццатай гадзіне была ў ложку!

## Па-пацанску

Пакуль дзеўкі слухаюць Лагуценку, іх аднаклясьнікі – сапраўдныя нэфэры, ведаюць – талент музыканта вызначаецца выключна тым, наколькі ён прымочку на гітары можа вывернуць. Для такіх мэляманаў маецца ажно два сьвяты – **мэтал сэйшн у Маладзёжным тэатры эстрады (13.02) і рок-фэст «Масса Бруто-2» у «Рэактары» 16.02**. Чарнілы праносіць і расьпіваць забаронена.

## Па-пантоваму

Саракагадовыя няўдачнікі, якія лічаць сябе творчымі натурамі, а таксама дзеўкі, якія любяць саракагадовых няўдачнікаў, могуць спаўзаць на **рытм-энд-блюзавы сэйшн** у выкананьні **THE STOKES (ДК МТЗ, 19.02)**. Лёгкае зьдзіўленьне пакідае пантовая назва сэйшну – *«Паміж Менскам і Рымам»*. Шчыра кажучы, *«паміж «Рыгай» ды «Нямігай»* гучала б больш падобна на праўду.

## Па-старому

Ізноў будзе **сэйшн зь «Легендамі Вялікага Княства»**. На гэты раз вычварэнцам давядзецца дзівіцца на **«Полацкі сшытак»**, які ўяўляе сабой барадаты эўрапейскі музон эпохі Рэнэсансу і Барока **ў выкананьні баранавіцкіх монстраў КАНТРАДАНС**. Працягне праграму **пінскі цуд Юры Дубнавіцкі** са страшна сумнай праг-рамай лютнёвай музыкі. Месца дзеяньня адпаведнае – **Дом Вэтэранаў, а 19-й**.

## Па-старыкоўску

Калі хто з пэнсыянэраў яшчэ памятае такую падзею, як прыезд гурта **SMOKIE** у Менск годзе ў 1999-м, радуйцеся і ўзгадвайце маладосьць – яны ізноў тутака! Месца дзеяньня – **КЗМ, 20.02**.

## Па-хардкору

Калі лічыць хардкорам тую папсовую парнаграфію, што выконваюць **ZET, КУКЛЫ, PARTYZONE** (а другое значэньне слова «hardcore» – менавіта жорсткае порна), то можна схадзіць і на БМАшную тусоўку ў тым жа **Рэактары 20.02** (асьцярожна, злая ахова!). Праўда, калі ўзгадаеш тое бязмозглае рубілава, якім займаецца большасьць згаданых калектываў, міжволі задумаесься — якое ж са значэньняў слова «хардкор» меў на ўвазе бізнэсовец Віталь Супрановіч, абзываючы гэную сходку фэстам «Hardcoremania: чаду!»....

## Па-лявонску

Беларуская рок-сцэна панесла цяжкую неаднаўляльную страту. **У суботу, 22.02**, не выходзячы з каматозу, гурт **N.R.M.** распачынае **цыкл гастроляў у падтрымку свайго новага альбому «Дом Культуры»**. **Першы сэйшан – у Мазыры**. Просьба ўшанаваць памяць культуры хвілінай маўчаньня.

## Па-кіношнаму

На гэтым тыдні можна са спакойным сумленьнем забіць болт на ўсе раённыя кінатыятры зь іхнымі дурнымі бандыянамі. У **«Міры»** паказваюць наступнае:

**«8 1/2» – 10.02/18:00**
**«І карабель плыве» – 11.02/18:30**
**«Джынджэр і Фрэд» – 12.02/18:30**
**«Інтэрв'ю» – 13.02/18:30**
**«Чырвоная пустыня» – 14.02/18:30**
**«За аблокамі» – 15.02/18:30**
**«20 стагодзьдзе» – 16.02/18:30.**

**Sanitarro,**
FUTUROLOGIST CULTURELLE

# Музыкі сьвету супраць Супрановіча

## Хвалебная рэцэнзія на новы анарха-зборнік

*На гэтай плытцы можна знайсьці творы на любы густ. У тым ліку і габрэяў, якія сьпяваюць нятленкі НЕЙРО ДЮБЕЛЯ*




Сёньня ў нашыя прэпаратарскія рукі трапіў беларускі дыск, які на рок-каранацыю дакладна не прэтэндуе. Затое ў кішэні любога антыфашыка знойдзецца месца ягонай пірацкай копіі.
Адразу прыемна зазначыць, што праграма зробленая па панятках – на глянцавай паліграфіі (зробленай на халяву ў Польшчы) красуецца «Незаконнае капіяваньне, тыражаваньне і трансьляцыя ДАЗВАЛЯЮЦЦА І РЭКАМЭНДУЮЦЦА»... Ну, як кажуць, слова не верабей.
Сам дыск – кампіляцыя антыфашыстоўскіх бандаў з усяго сьвету – збацаў таварышч Міхельсон. Год таму пасраўшыся з Супрановічам з-за фашыстоўскага скандалу, ён увёў усю гарадзенскую сетку распаўсюду БМА ў накірунку анархапанкаў, левага хардкору і ўсяго такога. Пачуй выдадзены сёньня дыск які Вітаўт Мартыненка, ён бы напэўна у ложку перавярнуўся ад жаху...
Вельмі хацелася б прагрузіць пра тэксты, але ж хер зразумееш чаго без брыгады ін'язаўцаў пад рукой. Гішпанская, італьянская, польская, ангельская, беларуская трасянка :)... Асноўны сэнс і так зразумелы – фак фашызму, грамадзтву спажываньня і іншай трасцы. Ура братэрству, сквотам і ўсяму такому...
Шмат песьняў прапёрлі абсалютна як выкананьнем так і атмасфэрай – напрыклад, Tin soldier(Generatorz, Канада – панковая гірла вясёлым голасам бэнзапілы сьпяе нешта пра 17-ці гадовых радыкалаў. Супэр! Супэр адпачывае... разам са сваім фрыгідным «імпэтам».). Файна каўбасяць польскія банды – sharp-оўская ANALOGS («Sny o potedze») і лявацкі LENIWIEC («Deportacja 68» )... Блін, у нас бы які кватэрнік адыгралі штоль?
Радзіма камандантэ Чэ радуе рэвалюцыйнай тэмай «sen~ales difusas», радзіма «чырвоных брыгадаў» не адстае. Вы чулі італьянскі панк? Вы ня чулі італьянскага панку... Карацей панкаўскі інтэрнацыянал імя міхельсона атрымаўся – добрых бандаў на дыску ёсьць.
Але канешне ж ёсьць і забаўныя нюансы. Вельмі афігіцельна было пачуць ад сярэдненькай ізраільскай каманды ASTROGLIDES кавэр НЕЙРО ДЮБЕЛЯ «Петрова, подай воды»(?)... Застаецца спадзявацца, што яна нясе больш ідэйнага сэнсу, чым кулінковіцкі вакаліз. Прыкольна гучаць пара камандаў, відавочныя ідэалы якіх – Макс Кавалера і Стас Пачобут. Мастацкі рык на фоне даволі лёгкага і задорнага музону выглядае сьвежа і незвычайна. Блатняку ў праграме амаль няма – апрэч каманды ТВАР, дзе грае брат укладальніка. :)
Выснова – рэкамэндуецца ўсім фанатам ой-панку, левых ідэяў, аўтастопаў па Эўропе, пагромаў у Давосе ды бэрлінскага чорна-краснага Першамаю... А калі замежнага пашпарту пакуль няма (варыянт – сэсія на носе, у патруль ісьці на тыдні ;), спачатку можна і ў Менску пару нацыкаў атаварыць...●

**Санітар,**
МУЗЫЧНЫ ПРАВАКАТАР

# ТАТУ хутка стануць невыязнымі

А я думала, што нас не дагоняць...



Хутка ТАТУ будуць цалавацца хіба толькі за кратамі. Ангельскія клерыкалы аб гэтым паклапо-цяцца...

Старая добрая клерыкальная Ангельшчына днямі атрымала пад дых, калі не сказаць ніжэй, ад падлеткавага лесбійскага дуэту ТАТУ з братэрскай Расеі. Дзяўчачы хіт «All The Things She Said», што перакладаецца прыкладна як «Я зьехала з глузду», дарваўся да першага месца брытанскага хіт-параду, чаго яшчэ ніводная зорка з постсавецкай прасторы не дасягала. Чопарныя ангельцы шакаваныя, іх дзеці скупаюць дыскі татушак дзясяткамі тысячаў, дзяўчынкі цалуюцца зь дзяўчынкамі, а хлопчыкі – зь дзядзямі, карацей, будучыня і бясьпека краіны пад пагрозай. Спачатку вядомыя там тэлевядучыя Рычард Мэдэлі і Джудзі Фінэган распачалі гістэрыю, абвінавачваючы ТАТУ ў прапагандзе пэдафіліі і лесбіянцтва і прапануючы байкатаваць іхны сынгл і канцэрты, аднак малым гэта толькі надало папулярнасьці. Пасьля кіраўніцтва тэлеканалу BBC-1 забараніла паказ новага кліпу дзіцятак, дзе ўсяго толькі паказвалася, як дзяўчынкі прыгожа цалуюцца пад дожджыкам, за «распусту і амаральнасьць, якія абражаюць гонар і годнасьць вялікай колькасьці гледачоў». І гэта наводзіць на думку, што шоў-бізнэс у Расеі стаў больш моцным і кічлівым, чым на хвалёным Захадзе, бо ў Расеі кожнае дзіця ведае, што гэта ўсяго толькі сродак прыцягнуць да сябе ўвагу. Тое, што дзяўчынкі ўсюды крычаць пра сваё каханьне, цалуюцца, дзе толькі могуць, жывуць разам у нумары гасьцініцы з адным ложкам – ня больш, чым аплочаны прад'юсарамі імідж, што, як высьвет-лілася, зьяўляецца дзікасцю для «прасунутага» Захаду. Ды й таталітарныя мэтады барацьбы з прагрэсіўнымі павевамі ў мастацтве ва ўсім цывілізаваным сьвеце даўно забытыя. Відаць, адзінае, што ратуе ТАТУ ад арышту – іх непаўнагадо-вы ўзрост ●

**Дон Жуан,**
КРУТЫ ЛЕСБІЯН

# Дызайн перамогі



**Беларускі і амэрыканскі алімпійцы: знайдзіце 10 адрозьненьняў і апраніце спартоўца сваёй зборнай.**

Нарэшце стала зразумелым, што не зусім удалыя выступленьні беларускай алімпійскай зборнай былі абумоленыя непрыгожай і няякаснай формай спартсмэнаў. І гэта стала зразумелым у Нацыянальным алімпійскім камітэце на нядаўнім паседжаньні.
Галоўнай адметнасьцю новай формы, акрамя ўліку апошніх тэндэнцыяў сусьветнай моды, будзе таксама актыўнае выкарыстаньне беларускай дзяржаўнай сымболікі ва ўсіх элемэнтах адзеньня і аксэсуарах. Напрыклад, у колерах нацыянальнага сьцягу будуць ня толькі гальштукі, шалікі і хусткі, але і сумкі, кепкі і абутак. Ад такой агрэсіі чырвонага і зялёнага колераў супернікі дакладна адчуюць дрыжэньне каленак, многія ня выйдуць на старт, ці падсьвядома будуць імкнуцца прайграць мастадонтам беларускага спорту.
Новая форма была заслужана адобраная міністрам спорту і турызму Юрыем Сіваковым, які раней узначальваў МУС. Каму, як не яму разважаць пра эстэтычную вартасьць формы. Як жа ж прыгожа сказаў: «Такія колеры падкрэсьляць прыродную прыгажосьць і грацыю беларускіх спартсмэнак і мужнасьць беларускіх атлетаў». Цяпер можна не сумнявацца, што ў 2004 годзе ў Афінах да чырвона-зялёных колераў беларускіх алімпійцаў дададуцца залатыя адценьні ●

**А. Рыгоравіч,**
СПАРТОВЕЦ

(Працяг тэмы са стар.1)









Здавалася б, што перажыўшы 11 верасьня Амэрыка будзе спаць спакойна. Насамрэч людзі сталі баяцца яшчэ больш...

# У ЧАКАНЬНІ ДРУГОГА БАШМАКУ

## Як патлумачыць мэтамарфозы XXI стагодзьдзя анэкдотам XIX стагодзьдзя































Вобразы агорнутага полымем будынкаў Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру пакінулі свой сьлед у мазгу кожнага янкі. Цяпер усе мы ператвараемся ў нэўротыкаў...



Ніхто не зьвяртае ўвагі, што гаршчыя вежы нябольш за галаву вядучага, які пужае нас жахамі.



Інфармацыя пра катастрофы, што падаецца ў тэлебачаньні ўсё больш нагадвае дзіцячыя коміксы жахаў.



Яны баяцца тэхнагенных катастрофаў, напрыклад, што абломкі чарговага шатла зарадзяць у башку.



Яны баяцца адкінуцца ад сібірскай язвы і з асьцярогай карыстаюцца паслугамі пошты.



Яны баяцца пазбавіцца звыклага ладу жыцьця й ператварыцца ў бамжоў або ўцекачоў.





Яны баяцца схадзіць у тэатар або на канцэрт, каб ня стаць закладнікамі тэрарыстаў і не пазбавіцца сваіх вушэй.



Яны баяцца, што нейкі злачынца ўтыркне ім паміж лапатак нож або згвалтуе ў пад'езьдзе.

**Сачыце за тэленавінамі! Хутка Джыхад абутку прыйдзе і ў ваш дом!**



Яны баяцца, што заўтра пачнецца вайна, і лінія фронту пройдзе акурат праз іхную кухню.